Калі Вам трэба прадоўжыць падпіску на «Народную Волю» і атрымліваць газету і ў жніўні, завітайце на пошту да 27 ліпеня.

№№111–112
(3650–3651)

20 ліпеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ПОД ГРАДУСОМ**

## Выходные могут быть с дождем

*Такой прогноз сделал начальник службы Гидрометцентра Беларуси Дмитрий РЯБОВ.*

— Сегодня, 20 июля, Беларусь будет продолжать оставаться во власти атлантического воздуха, поэтому рассчитывать на кардинальное изменение погодных условий пока не стоит, — *рассказывает самый известный белорусский синоптик.* — В последний день рабочей недели активная фронтальная волна принесет новую порцию дождевых облаков. В таких условиях дневной прогрев не превысит +16...+22 градуса, по Брестской и Гомельской областям ожидается до 24 градусов тепла.

Но уже к началу выходных зона осадков покинет нас, и предстоящий уикенд обещает быть посуше и потеплее. В дневные часы воздух прогреется до +18...+25 градусов, при этом местами могут брызнуть небольшие дожди.

**АКТУАЛІІ**



*Святлана КАЛІНКІНА*

## Дзякуй табе, Дзіма!

Са Зміцера Дашкевіча зрабілі злоснага парушальніка рэжыму і завялі новую крымінальную справу. Ён павінен быў выйсці на волю 18 снежня, але, мяркуючы па ўсім, не выпусцяць. Проста не выпусцяць. Бо некаму вельмі не хочацца, каб ён быў на волі. Ненавісныя сённяшняй уладзе такія, як Дашкевіч.

Пустазвоны, якія балабоняць за Беларусь, але нават не могуць датумкаць, дзе ў іх афіцыйны сцяг перавернуты дагары нагамі, а дзе правільны — тыя прыгрэтыя і аблашчаныя. Прыстасаванцы, якія не паварушацца, калі ім грошай не заплацяць ці адгулам не засалодзяць — тыя для ўлады свае. Балбатуны, якія ведаюць, дзе і што сказаць ды ў чые вушы — гэтыя наогул разумнымі лічацца. А з такімі, як Дашкевіч, сённяшняй уладзе няма на чым сысціся. Калі б ён бабуль абкрадаў ды валяўся п'яны па завуголлях — даўно быў бы на волі з пажаданнямі шчасця і дабрабыту. А паколькі ідэйны, то будзе сядзець. Гэтай уладзе не патрэбны ідэйныя, ёй патрэбны тыя, хто чмякае ля карыта.

Але людзі ад жывёл тым і адрозніваюцца, што здольны клапаціцца пра высокае, узнёслае, пра ідэалы. Напярэдадні Дня незалежнасці ў дубровенскай раёнцы (гэта ў той жа Віцебскай вобласці) я прачытала бліц-апытанне пра патрыятызм — у людзей цікавіліся, каго ў нашы дні можна лічыць патрыётам? І ніхто не сказаў, што патрыёт — гэта той, хто ў патрэбных месцах уладзе падчаўквае. *"Гэта чалавек, які любіць сваю краіну, які беражэ яе традыцыі і здольны да самаахвяравання на карысць сваёй Радзімы"*, — адказала нейкая Таццяна, 26 гадоў. *"Патрыёт — гэта чалавек, для якога служэнне Радзіме з'яўляецца галоўнай мэтай і сэнсам усяго жыцця"*, — Вольга, 47 гадоў. *"Патрыёты — гэта моцныя духам людзі, тыя, хто любіць сваю Радзіму і гатовыя служыць ёй усё жыццё"*, — гэта ўжо нейкая Людміла Барысаўна, 56 гадоў. Не ведаю, ці быў у гэтых простых людзей з глыбінкі прыклад перад вачыма, калі гаварылі яны такія правільныя словы, але я чытала — і думала менавіта пра Дзіму Дашкевіча.

Хлопца збівалі за майкі з надпісам "Люблю Беларусь", яго судзілі за заклікі "Жыве Беларусь!", яго запалохвалі, вывозілі ў лес, розныя хлуслівыя плёткі пускалі, каб дыскрэдытаваць... Але ён упарта стаяў на сваім: *"Мы не рускія, мы беларусы. Мы годны народ з годнай гісторыяй. Мы маем права на годнае жыццё"*.

Улада вар'яцела. Але словы Дашкевіча адгукаліся ў сэрцах тысячаў беларусаў.

Зміцера прыніжалі за беларускую мову, толькі сёння нават футбольныя фанаты падтрымліваюць свае каманды беларускамоўнымі расцяжкамі і крычалкамі.

Хлопца хапалі за бел-чырвона-белы сцяг, а цяпер алімпійская зборная едзе ў Лондан у касцюмах, выкананых у колерах сапраўднага нацыянальнага сцяга. І гэта значыць, што ён, нацыянальны сімвал, перамагае. Такія, як Дашкевіч, перамагаюць.

Улада рабіла недапушчальнае — фактычна выхоўвала ў беларусах комплекс непаўнавартасці. І, маўляў, нічога вялікага на нашай мове не напісана, і ніколі ў гісторыі мы не былі самастойнымі, і нашы гістарычныя сімвалы — сцяг і герб — нечым там зганьбаваныя, і небаракамі мы ўдаліся, таму самі, без падказкі, не разбяромся, за каго на выбарах прагаласаваць... Мы — дарослыя, разумныя, вопытныя — ад адчаю не ведалі, што рабіць. Хто зусім змоўк, хто абураўся на кухні, хто пісаў акадэмічныя артыкулы, хто з'язджаў у эміграцыю. А гэтыя хлопчыкі і дзяўчаты змагаліся, лезлі ў самае пекла. З падкрэсленай беларускасцю, з бел-чырвона-белымі-сцягамі, з улёткамі, з вулічнымі акцыямі, з упартай упэўненасцю, што ўсё можна змяніць, яны жылі па прынцыпе "Люблю Беларусь" і траплялі ў турмы...

І Дашкевіч быў у іх наперадзе. У лідарах.

Дык хто самаахвяраваных служыць Радзіме, хто патрыёт? Тыя, чыімі рукамі і па чыім загадзе над ім здзекуюцца, ці маладзён, які не словы пра патрыятызм на палітінфармацыях гаворыць, а ахвяруе сабой у імя Беларусі?

Сёння нейкія словы падтрымкі трэба казаць яму, Дзіме. Бо гэта адзінае, што мы можам. Пакуль няма ў нас іншых спосабаў дабіцца справядлівасці. Няма магчымасці абараніць хлопца, якога цкуюць ні за што. Няма спадзяванняў на закон, на суд, на розум, на сумленне. Няма ля ўлады маральных аўтарытэтаў, якія б пайшлі, сказалі "Сорам!" і ўлада б адразу засаромелася, выпусціла.

Дажыліся...

Але пакуль ёсць такія хлопцы, як Дашкевіч, застаецца надзея, што за гэты перыяд апантанага цемрашальства перад гісторыяй беларусы апраўдаюцца. Бо неяк жа і Дашкевіч, і многія іншыя, такія, як ён, яны сярод нас нарадзіліся. Разумелі мы іх ці не разумелі, падтрымлівалі ці не падтрымлівалі, толькі менавіта яны даказвалі, што беларусы — гэта не толькі баязліўцы, прыстасаванцы і манкурты без каранёў.

Дзякуй табе, Дзіма! Бо нават з-за кратаў ты падтрымліваеш у сэрцах людзей надзею, што Беларусь абавязкова будзе менавіта такой, якую ты любіш. Годнай, свабоднай, прыгожай еўрапейскай краінай.

Ты мацуеш веру ў тое, што перажывём мы гэты цяжкі этап. Але тады ўжо ніколі наша Радзіма-гаротніца не зведае часоў, калі людзі баяцца выйсці на вуліцу з плакатам "Люблю Беларусь!". Калі антыдзяржаўным лічыцца лозунг "Жыве Беларусь!". Калі такія хлопцы — за кратамі.

*(Працяг тэмы нв 2-й стар.)*

**ВЫБАРЫ-2012**

## Доктар Хадоркін: тост за перамогу

*Вядомы ў Беларусі псіхатэрапеўт, які праславіўся паспяховым лячэннем алкагалізму, доктар **Аляксей Хадоркін** плануе стаць дэпутатам палаты прадстаўнікоў.*



У камісіі Грушаўскай выбарчай акругі №98 Мінска, па якой плануе балатавацца Аляксей Аляксеевіч, дадзеную інфармацыю пацвердзілі. Праўда, паведамілі ў акруговым выбаркаме, непасрэдна аб вылучэнні Хадоркіна кандыдатам у "дэпутаты" гаворку весці пакуль рана — пададзены толькі дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы. Далей працэдура стандартная: збор подпісаў выбаршчыкаў і ў выпадку яе поспеху перадвыбарная агітацыя.



## Янукевіч абраў рабочы раён

*Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** па традыцыі збіраецца балатавацца ў дэпутаты па Аўтазаводскай акрузе № 92.*

Прычым падобна на тое, што па дадзенай акрузе будзе назірацца ажыятаж жадаючых атрымаць дэпутацкі мандат. Як паведамляе сайт Партыі БНФ, у журнале рэгістрацыі дакументаў заява старшыні БНФ была зарэгістравана пад №7.

Дарэчы, у склад Аўтазаводскай акруговай камісіі быў уключаны прадстаўнік Партыі БНФ **Уладзімір Малей**. Такім чынам, пакуль што на выбарчай пляцоўцы Янукевіча ўсё выглядае прыстойна і дэмакратычна.

## Анатоль Букас: ад слоў — да справы



*Ініцыятыўная група рэдактара незалежнай газеты "Барысаўскія навіны" **Анатоля Букаса** падала дакументы на рэгістрацыю ў акруговую камісію Барысаўскай гарадской выбарчай акругі №62.*

Як распавёў сябра ініцыятыўнай групы Букаса **Ігар Леднік**, пасяджэнне акруговай камісіі па рэгістрацыі ініцыятыўных груп прызначана на бліжэйшую пятніцу.

Дарэчы, Анатоль таксама не першы раз удзельнічае ў выбарах. У 1996 годзе для таго, каб стаць дэпутатам, яму не хапіла ўсяго 1,5 працэнта галасоў.



## Па гэты бок экрана

*Вядучы АНТ **Аляксей Міхальчанка** таксама вырашыў пашырыць гарызонты сваёй кар'еры.*

Хаця Міхальчанка ўжо некалькі гадоў жыве ў Мінску, ён родам з Полацка і вырашыў балатавацца менавіта ў гэтым горадзе. Ініцыятыўная група невялікая — усяго 16 чалавек.

## Мілінкевіч балатуецца ва Уруччы



*Учора былі пададзены дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы па вылучэнні лідара Руху "За Свабоду", кандыдата ў прэзідэнты на выбарах-2006 **Аляксандра Мілінкевіча** кандыдатам у дэпутаты.*

У складзе ініцыятыўнай групы — больш за 350 асоб з самых розных сфер. Сярод іх — напрыклад, бард Зміцер Бартосік, былы палітвязень Мікіта Ліхавід, палітык Рыгор Кастусёў, эканаміст Сяргей Чалы, былы віцэ-рэктар ЕГУ Уладзімір Дунаеў...

## Першая адмова

*Навіна пра першую адмову ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты прыйшла з Хоцімска.*

Групу мясцовага актывіста **Валерыя Каранкевіча**, які меў намер балатавацца ў Палату прадстаўнікоў па Крычаўскай выбарчай акрузе №83, не зарэгістравалі.

Як растлумачыў "Народнай Волі" кіраўнік ініцыятыўнай групы **Пётр Басейка,** дакументы былі пададзены на 13 чалавек. Аднак у дзень правядзення пасяджэння камісіі высветлілася, што 6 чалавек адклікалі свае подпісы.

— *Людзей адшуквалі на рыбалцы, на паляванні, на працы і проста запалохвалі*, — кажа Пётр Басейка. — *Мне і самому пагражаюць звальненнем, калі я не выйду з групы Каранкевіча.*

Аднак Пётр Басейка, які працуе вартаўніком на прадпрыемстве мясцовага ЖКГ, гатовы да любога развіцця падзей. І адмаўляцца ад актыўнага ўдзелу ў выбарчай кампаніі намеру не мае.

Сам прэтэндэнт — Валерый Каранкевіч — таксама не збіраецца сыходзіць з дыстанцыі.



**БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!**

## Шпіталізаваны Рыгор Барадулін

*У народнага паэта выявілі парушэнне рытму сэрца.*



Яшчэ напрыканцы мінулага тыдня паэта наведала тэрапеўт, якая западозрыла праблему. Паводле яе накіравання, да паэта дадому прыехала брыгада з лечкамісіі, якая зрабіла кардыяграму і выявіла парушэнне рытму сэрца.

Як паведамляе "Еўрарадыё", урач настаяў на шпіталізацыі, хоць Барадулін актыўна адмаўляўся — паэт вельмі не любіць бальніцы, у якіх цягам апошніх гадоў яму даводзілася ляжаць неаднойчы.

Першапачаткова ішла гаворка пра чатыры дні ў шпіталі, але на месцы ўрачы прынялі рашэнне пакінуць дзядзьку Рыгора на два тыдні.

Раней у 77-гадовага Рыгора Барадуліна ўжо ўзнікалі падобныя праблемы — тыя разы ўрачам удавалася паспяхова, пры дапамозе кропельніц, аднавіць нармалёвы рытм сэрца.

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## Хитро работаем!

Небывалая валютная выручка обрушилась на Беларусь. За январь—май текущего года валютные поступления составили рекордные 25 миллиардов долларов. Такого валютного дождя за пять месяцев страна не знала. К примеру, за весь 2009 год валютная выручка была 22 миллиарда долларов.

И это еще не все рекорды. Положительное сальдо торгового баланса за пять указанных месяцев превысило 3 миллиарда долларов, тогда как на весь 2012 год оно запланировано в 1—1,5 миллиарда. И на эти плановые один-полтора миллиарда скептиков было хоть отбавляй. Как же мы так рванули?

80 процентов прироста белорусского экспорта — это нефть, нефтепродукты и те самые, ставшие знаменитыми, растворители-разбавители. Наши славные нефтеперерабатывающие заводы кочегарят на полную мощность. В общей структуре экспорта на долю нефтепродуктов приходится 33,6%, растворителей и разбавителей — 10,4%, смазочных материалов — около 4%. А все в целом составляет порядка 48% нашего экспорта. Беларусь увеличила экспорт растворителей и разбавителей в стоимостном выражении в 7,3 раза. За первые 4 месяца их было экспортировано около 1,89 миллиона тонн, что составило сумму в 1,7 миллиарда долларов. В то время как за аналогичный период прошлого года вывезли 283 тысячи тонн на сумму 233 миллиона долларов. По смазочным материалам рост составил 43 раза. Их экспортировали на сумму 591 миллион долларов, тогда как в прошлом году за этот же период — на 13,89 миллиона. По заявлению российского посла Александра Сурикова, Россия обеспокоена тем, что Беларусь экспортирует нефтепродуктов больше, чем их можно выработать из поставляемой российской нефти.

Этим белорусским феноменом руководство России заинтересовалось более чем всерьез, поскольку с этих товарных позиций в отличие от других (бензины, дизельное топливо и т.д.) экспортная пошлина в российский бюджет не перечисляется. 17 июля первый вице премьер России Игорь Шувалов и вице-премьер Беларуси Сергей Румас обсуждали вопросы двустороннего торгово-экономического сотрудничества, в том числе и тему растворителей-разбавителей. Заместитель министра финансов России Сергей Шаталов прямо заявил: *"Мы столкнулись с тем, что в несколько раз в Беларуси вырос экспорт органических растворителей на внешний рынок. Мы опасаемся, что этот товар — прикрытие. Не исключено, что под видом растворителей экспортируются нефтепродукты".* Если это так, то Россия оценивает свои потери не меньше 1 миллиарда долларов. Тогда российское правительство будет добиваться перечисления пошлин в свой бюджет и от экспорта растворителей и разбавителей. По оценкам экспертов, в этом случае белорусский торговый баланс вновь уйдет в минус со всеми вытекающими последствиями.

Вторая после нефтепродуктов наша экспортная товарная позиция — калийные удобрения — подводит. Физические объемы поставок хлоркалия сократились на 24%. Тем не менее вместе эти позиции формируют около 60% белорусского экспорта. О какой его диверсификации может идти речь? 8,5% прироста промышленности обеспечено главным образом концерном "Белнефтехим".

А что же остальная наша экономика? Темпы прироста ВВП в I полугодии по сравнению с первой половиной 2011 года составили лишь 2,9% вместо запланированных 5—5,5%. По данным Белстата, за первые 5 месяцев реальная зарплата белорусов по сравнению с аналогичным периодом минувшего года выросла на 4%. Это, как всегда, больше темпов роста производительности труда. Номинальная же зарплата увеличилась более чем в 2 раза. Следовательно, печатный станок и не думал отдыхать. Объем наличных денег возрос с начала года на 41,4%. Только за июнь он вырос на 14,8%, против 5,9% майских. Рублевая масса в целом за полгода увеличилась на 30,6% и достигла 56,6 триллиона рублей. Заметьте, если Нацбанк ранее снижал ставку рефинансирования на 2%, то в последний раз (18 июля) снизил на 1%. Главный регулятор осторожничает. Он не без оснований опасается, что под напором растущей рублевой массы и дешевеющих кредитов курс национальной валюты вновь дрогнет и начнет ослабевать, как это отмечено с конца мая.

Несмотря на обилие валютной выручки, золотовалютные резервы страны естественным образом почти не пополняются. Они повысились в основном за счет зачисления в них очередного транша кредита Антикризисного фонда ЕврАзЭС. Проще сказать, вся валютная выручка расходится, и спрос на валюту постоянно растет как со стороны субъектов хозяйствования, так и со стороны населения. Идет она и на погашение внешних долгов. Так, отношение валового внешнего долга к ВВП на 1 апреля к такому же показателю на 1 января 2012 года выросло с 62,3 до 63%. А внешнего государственного долга к ВВП соответственно увеличилось с 22,6 до 23,3%. Как видим, груз долгов и при рекордном экспорте не ослабевает.

Экономике Беларуси по-прежнему необходима внешняя кредитная поддержка. Можно сказать, что неудачей закончилось зондирование правительством МВФ и Всемирного банка на счет дальнейших кредитных проектов. В своем экономическом меморандуме Всемирный банк дал, по сути, негативную оценку состояния белорусской экономики, отмечая, что при отсутствии структурных реформ она исчерпала свой потенциал роста. По данным СМИ, сальдо доходов от произведенных прямых иностранных инвестиций, которых так недостает нашему реальному сектору, за I квартал оказалось отрицательным в размере 616 миллионов долларов. Это говорит о том, что иностранные предприятия предпочитают вывозить полученную прибыль домой или в другие страны, вместо того чтобы вкладывать ее здесь в развитие производства.

Что ж, оценивая результаты деятельности экономических властей, можно сказать и так: каждый работает, как умеет. Хитро работаем!

**ПРОТРЕЗВИЛИ!**

## 45 миллионов — за пьяную езду

*Такую сумму заплатит житель городского поселка Свислочь за попытку пересечения государственной границы в состоянии алкогольного опьянения.*

Двое друзей в Литву направились по делам на личном авто. За руль хозяин авто сесть не мог — крепко выпил накануне. Поэтому до границы его вез друг, уступив место хозяину лишь на пункте пропуска "Привалка". Сотрудник таможни, который подошел к горе-путешественникам буквально через минуту после рокировки, вызвал ГАИ. Сотрудники автоинспекции с помощью алкотестера зафиксировали нетрезвое состояние водителя. Автомобиль арестовали, а штраф в 45 миллионов нужно заплатить до конца месяца, иначе своего железного друга водитель больше никогда не увидит.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 ЛІПЕНЯ 2012 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Бацька Зміцера ДАШКЕВІЧА:

# «Не веру, што хутка пабачымся на волі...»

*Сёння, 20 ліпеня, лідару зарэгістраванай у Чэхіі міжнароднай арганізацыі "Малады фронт" Зміцеру Дашкевічу споўніўся 31 год. За два дні да свята Следчы камітэт зрабіў Дашкевічу своеасаблівы падарунак — з самай раніцы ў праграме "Зона Х" мімаходзь аб'явілі: за "злоснае непадпарадкаванне адміністрацыі калоніі" супраць зняволенага ўзбуджана крымінальная справа. Гэта значыць, што на волі Зміцер Дашкевіч цяпер можа апынуцца толькі праз год...*

Бацька Зміцера **Вячаслаў Уладзіміравіч Дашкевіч** пасля смерці жонкі жыве адзін у сваім доме ў Старых Дарогах. Аб новай пагрозе сыну ён даведаўся ад знаёмых — сам мала глядзіць тэлевізар, а інтэрнэтам не карыстаецца.

— Мы сустракаліся не так даўно ў калоніі, і я тады ўжо сказаў сыну: "Не веру, што хутка пабачымся на волі..." — *уздыхае Вячаслаў Уладзіміравіч.*

**— Днямі нявеста Зміцера Наста Палажанка напісала адкрыты ліст да апазіцыйных палітыкаў. У звароце яна абвінаваціла іх у бяздзеянні: маўляў, не прадпрымаюць нічога, каб выратаваць Зміцера. Вы падзяляеце меркаванне Насты?**

— Самога ліста я не бачыў, але чуў каментарый на Радыё Свабода. І там некаторыя апазіцыянеры казалі, што з разуменнем ставяцца да слоў Насты і будуць нейкія меры прымаць.

**— Да вас прыязджаюць ці хаця б тэлефануюць паплечнікі Зміцера?**

— Я не адчуваю патрэбы ў тым, каб мне дапамагалі, напрыклад, па гаспадарцы. А так некалькі разоў была Наста, сяброўка яе, хросная маці Зміцера... Я мала з кім падтрымліваю зносіны...

**— Калі Наста Палажанка патрапіла ў СІЗА КДБ, яе бацька напісаў ліст да Лукашэнкі. У вас ніколі не ўзнікала такога памкнення, каб вызваліць Зміцера?**

— Гэта была б марная трата часу. Трэба ўпасці ў бруд... Я яшчэ, можа, і змог бы так зрабіць, але Зміцер ніколі б не дазволіў.

**— Зміцер заўжды падаваўся інтэлігентным чалавекам. Як па-вашаму, чаму прыўладная прапаганда так апантана хоча зрабіць з яго закаранелага хулігана і дэбашыра?**

— Няма чаму здзіўляцца, яны так з усімі сваімі апанентамі паступаюць. Дарэчы, мы на волі такія ж безабаронныя, як яны ў турме. Любога могуць забраць, сказаць, што матам лаяўся ці яшчэ што...

**— Ад бацькоў некаторых палітычных вязняў можна пачуць вельмі безнадзейныя словы: маўляў, мы ўжо і не спадзяемся дачакацца сваіх дзяцей. Вось маці Зміцера так і не пабачыла сына на волі...**

— Гэта нельга ні забыць, ні прабачыць... Я не проста яе ўзгадваю — пастаянна з ёю размаўляю, раюся... Штодня кажу, дзе быў, што рабіў... Гэта тэма вельмі цяжкая для мяне.

*Мой суразмоўца на хвіліну замаўкае. Цяжка нават уявіць, якія пачуцці, які боль зараз варушацца ў сэрцы гэтага чалавека. Але яму трэба быць моцным.*

**— У Зміцера сёння дзень народзінаў. Распавядзіце, як звычайна святкавалі?**

— На жаль, у нас вялікага святкавання не практыкавалася. Так, мімаходзь, віншавалі адзін аднаго. Ні ў сям'і, ні ў родзе ў нас не прыжываліся такія святы...

**— А цяпер сыну, можа, нейкі падарунак падрыхтавалі?**

— Нічога не рыхтаваў — паслаў паштоўку і ўсё. На жаль, у нас у Старых Дарогах не знайсці паштоўку на беларускай мове, дык я папрасіў Насту даслаць з Мінска.

**— Часта з сынам лістуецеся?**

— Я пішу яму куды часцей, чым ён мне. Зміцер заўжды ў штрафным ізалятары, а там жа перапіска забаронена. Кожны раз піша, што ўсё ў яго добра, каб я не хваляваўся, маўляў, усё пад кантролем. А я яму кажу, што пад кантролем ён, а не справы... Турбуецца пра маё здароўе, каб я не перажываў лішняга...

**— Ці не ўзнікала ў вас жадання пасля ўсяго перажытага самому заняцца палітыкай, адважыцца на нейкі адчайны ўчынак?**

— Папросту кажучы, баюся... Я ў гадах, інвалід другой групы, дый самае галоўнае (я пра гэта і Зміцеру не раз казаў) — проста не здужаю вытрымаць усё, як ён. Так паводзіць сябе, як ён, я б не змог...

Ведаеце, самую першую справу на яго завялі ў сакавіку, а ў ліпені адпусцілі ў Амерыку на месяц. Тады перад ад'ездам я быў у Мінску, мы з ім гутарылі ў скверы насупраць КДБ. Шчыра — раіў яму не вяртацца, бо пасадзяць. А ён казаў, што свой шлях выбраў самастойна. *"Прайду яго да канца, чаго б мне гэта ні каштавала",* — сказаў сын. І прапанаваў гэтую тэму закрыць назаўсёды. І мы закрылі.

Але адбылося так, як казаў я. Ён прыляцеў з Амерыкі ў верасні, збіраўся заехаць дахаты дапамагчы сёе-тое па гаспадарцы. Толькі перад гэтым мусіў да следчага зайсці. Я некуды адлучыўся, а потым прыходжу дадому — жонка плача. Кажа, што званіў Зміцер і толькі і паспеў сказаць: *"Мама, мяне ары...".* Гэта было перад першай адсідкай...



### З чужога вопыту

**"Па гэтым артыкуле атрымліваюць тэрміны без належнага судовага разбору"**

*"Ужыванне артыкула 411 КК Рэспублікі Беларусь — вельмі распаўсюджаная з'ява ў беларускіх турмах,* — пісаў на сваім сайце прадпрымальнік **Валерый Леванеўскі** (быў асуджаны ў 2004 годзе за абразу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь). — *Часта прымяняецца незаслужана, і да тых асуджаных, хто мае пачуццё ўласнай годнасці, хто патрабуе ад адміністрацыі калоніі захавання законаў, правоў асуджаных. Замест выхаваўчай працы з асуджаным адміністрацыя калоній часта, такім чынам, трымае ў страху іншых асуджаных. Асуджаны ставіцца перад выбарам — выконваць злачынныя дзеянні па загадзе прадстаўнікоў адміністрацыі (збіваць іншых асуджаных і да т.п.) або быць сумленным "арыштантам". Тых, хто гэтаму пярэчыць, могуць "зрабіць" злосным парушальнікам рэжыму ўтрымання па сфабрыкаваных ці неабгрунтаваных абвінавачваннях, змясціць у СІЗА, ПКТ і потым закрытым выязным судом асудзіць па 411 арт.КК Рэспублікі Беларусь.*

*Зыходзячы з судовай практыкі, усе, каго адміністрацыя калоніі "прадставіла" да дадатковага тэрміну па артыкуле 411 КК Рэспублікі Беларусь, атрымліваюць тэрміны без належнага судовага разбору".*





Наста Палажанка верыць, што рана ці позна яна сустрэне Зміцера з турмы і ў іх нарэшце пачнецца нармальнае жыццё.



Калі Зміцер быў маленькім, Вячаслаў Уладзіміравіч і падумаць не мог, што сын калі-небудзь апынецца ў калоніі.

### РЭЗАНАНС

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «Свабоду палітвязням!»**

"Рэжым перераследуе Дашкевіча па дзвюх прычынах, — *лічыць палітвязень і былы лідар "Маладога фронту"* **Павел Севярынец.** — Па-першае, ён да гэтага часу ўзначальвае найбольш уплывовы беларускі маладзёжны рух. Па-другое, ён нават у турме паводзіць сябе годна і нязломна. Рэжым баіцца Дашкевіча, і вось гэтая крымінальныя справа паказвае, наколькі моцна баіцца.

Беларусы павінны патрабаваць свабоды для Зміцера Дашкевіча. Зваротамі, акцыямі, сцягамі, інтэрнэт-кампаніямі. Іначай рэжым будзе душыць нас паасобку. Свабоду Дашкевічу! Свабоду палітвязням! Свабоду Беларусі!"

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ОНИ — О НАС

## *Нам не нужен МТЗ...*

*"...В России заводы стали оживать. И по большому счету белорусские заводы нам уже не нужны.*

Появились новые схемы. Российских инвесторов уже не интересуют законченные корпуса, они перекупают сбыт. Для чего? Чтобы эти заводы просто закрыть. Нам не нужен МТЗ со своими тракторами, так как нам надо свои пять тракторных заводов поднимать. Нам не нужен Солигорск с его шахтами, так как проще вложить деньги в российские калийные рудники. Нам не нужен МАЗ, когда активно растет производство на КАМАЗе. Три года назад белорусские предприятия России еще были интересны. Сейчас нет. Между прочим, и Кремлю, который откровенно себя ведет как лоббист российского капитализма, конкуренты не нужны. Ведь то, что Лукашенко годами "охранял" от "криминального российского капитала", не создает для России рабочих мест, не платит налогов в федеральный бюджет и, как следствие, не оказывает влияния на выборах".

**Андрей БОБРЕНКО, "Шаг".**
*Москва.*

### ОТ РЕДАКЦИИ

Что написано пером, не вырубить топором. А написано четко и ясно: *"Три года назад белорусские предприятия России еще были интересны. Сейчас нет".* С одной стороны, **все** остается нам. А с другой — **что** остается? Кому будем продавать трактора, машины, удобрения? Выдержим ли конкуренцию?

В Европу не спешим, у России свои интересы... Перспектива, похоже, не из радостных. Есть над чем поломать голову и правительству, и всем нам, простым белорусам.

ВІЗІТ

## Не выкруціцца

Бакі падзякавалі адзін аднаму і дамовіліся аб фінансаванні будаўніцтва беларускай АЭС, — такая асноўная навіна пасля візіту ў Мінск прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Але падобна на тое, што галоўнымі тэмамі перамоў былі тыя, па якіх яшчэ прыйдзецца дамаўляцца.

За дзень да сустрэчы з Мядзведзевым Аляксандр Лукашэнка з'ездзіў на "Беларуськалій". "*Мне няма сэнсу прадаваць "Беларуськалій"... Я яго не будаваў, не ствараў — тут цэлае пакаленне ўклала сваю працу, і прадаваць яго за бясцэнак ніхто не будзе. Вось мае цвёрдае слова, сказанае публічна".*

Ці глухаватыя там, у Крамлі, ці выпадкова здарылася, але менавіта пра "Беларуськалій" гаварыў і Мядзведзеў. А калі дакладней — пра тое, што "беларускім сябрам даўно пара прыняць адпаведнае рашэнне, усё роўна ад іх нікуды не адкруціцца".

А яшчэ — пра так званую "праблему растваральнікаў". Нагадаем, што за экспарт растваральнікаў, выробленых з расійскай нафты, Беларусь нічога не павінна плаціць расійскаму бюджэту. І сапраўднай ракой пацяклі на захад гэтыя самыя растваральнікі. Толькі вось расіяне падазраюць, што такімі яны з'яўляюцца толькі на паперы, што пастаўляюцца звычайныя нафтапрадукты.

*"Мы дамовіліся ва ўсім разабрацца дасканала, прыняць неабходныя рашэнні. Нават калі яны будуць цяжкімі. І калі парушэнні былі, то асобы, якія іх парушылі, павінны панесці пакаранне, а эканамічныя інтарэсы павінны быць адноўлены",* — заявіў **Дзмітрый Мядзведзеў**.

А яшчэ падчас кароткай прэс-канферэнцыі ён выказаў спадзяванне, што хутка будуць завершаны перамовы пра аб'яднанне ў адну кампанію МАЗа і КамАЗа, і што Беларусь усё ж уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, каб можна было весці бізнес чэсна, празрыста і па агульных правілах... Карацей, дэманстраваў упэўненасць: хлопцы, вам не выкруціцца.

### ДАРЭЧЫ

Дзмітрый Мядзведзеў любіць фатаграфаваць навакольныя падзеі, а потым выкладаць фотаздымкі ў інтэрнэт. Пасля апошняга візіту ў Мінск ён апублікаваў фота Белдзяржцырка. Ці сапраўды яму так спадабаўся будынак, ці фота было выкладзена з намёкам, застаецца толькі здагадвацца.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ТРАГЕДЫЯ

## *Трое падлеткаў загінулі ў катлаване*

*Іх засыпала грунтам.*

Трагедыя здарылася на гэтым тыдні ў Хойніцкім раёне ў вёсцы Звіняцкае.

*"Па прыбыцці да месца выкліку было ўстаноўлена, што двое братоў* (2000-га і 2002 года нараджэння) *і іх знаёмы* (1999 года нараджэння) *днём сышлі гуляць на катлаван, выкапаны на ўскраіне вёскі,* — паведамілі супрацоўнікі МНС. — *У выніку абвалу грунту ўсе ўтрох апынуліся пад завалам. Каля 17.00 старэйшы брат аднаго з хлопчыкаў пайшоў шукаць дзяцей і ўбачыў, што ў катлаване абрынуўся грунт. Ён пачаў раскопваць завал і выявіў загінуўшага брата. Хлопец паклікаў на дапамогу мясцовых жыхароў, але было ўжо позна — выратаваць дзяцей не атрымалася..."*

**Вера ВІР.**

ДЫПКУР'ЕР

## *У Ізраілі сочаць за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі*

*Кіраўнік аддзела Еўразіі ізраільскага МЗС* ***Якаў Ліўне*** *падчас свайго візіту ў Мінск адзначыў, што Ізраіль адсочвае сітуацыю з правамі чалавека і палітвязнямі ў Беларусі.*

*"Мы сочым за гэтай праблемай, абмяркоўваем яе пры сустрэчах як з беларускімі, так і з еўрапейскімі і амерыканскімі калегамі,* — сказаў дыпламат. — *Стараемся абмяркоўваць гэтую праблему пры зачыненых дзвярах, а не ў прэсе. Трэба разумець, што Ізраіль не з'яўляецца цэнтральным іграком у гэтай сферы. Мы добра ведаем пазіцыі Еўропы, ЗША па гэтым пытанні і, вядома, прыслухоўваемся да іх".*

Ён таксама адзначыў, што палітычны дыялог паміж Беларуссю і Ізраілем "*за апошнія гады стаў больш частым, стала больш добрым разуменне паміж краінамі".*

Пасол Ізраіля ў Беларусі **Іосіф Шагал** паведаміў, што краіны *"падтрымліваюць вельмі добры дыялог, дзе закранаюцца і гэтыя пытанні".* Пры гэтым ён падкрэсліў, што *"ёсць шмат рэчаў, пра якія казаць адкрыта няма сэнсу толькі па адной прычыне, — каб не нанесці шкоды працэсам, якія намеціліся і ажыццяўляюцца сёння".*

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## *Беларускі пілот, які загінуў у Конга, працаваў на Украіну*

*Двое пілотаў верталёта Мі-2, які разбіўся на гэтым тыдні ў Рэспубліцы Конга, былі грамадзянамі Беларусі і Расіі.*

Яны ўваходзілі ў склад лётнай групы, якая працуе ў Конга па кантракце з Міністэрствам абароны Украіны, паведамілі ў МЗС Украіны.

*"У склад гэтай групы уваходзяць як грамадзяне Беларусі, так і грамадзяне Расіі, Малдовы і Украіны",* — паведаміў агенцтву interfax.by прэс-сакратар МЗС Украіны Аляксандар Дзікурасаў.

16 ліпеня ў раёне населенага пункта Мбуамбэ на поўнач ад сталіцы Конга пацярпеў крушэнне верталёт Мі-2, які належаў МУС Рэспублікі Конга. Паводле інфармацыі пасольства Расіі ў Бразавілі, загінуў экіпаж верталёта: грамадзянін Расіі Карасцель і грамадзянін Беларусі Чаранкоў.

*"Мы звязаліся з расійскімі калегамі, якія працуюць у Конга. Яны і ўдакладнілі, што былі апазнаны целы пілотаў: адзін з іх грамадзянін Расіі, другі — грамадзянін Беларусі. Гэтую інфармацыю таксама пацвердзіў кіраўнік лётнай групы, грамадзянін Беларусі",* — адзначыў Аляксандр Дзікурасаў.

ИМЕЙТЕ В ВИДУ

## *Семечки с... кадмием*

*Партия семян подсолнуха под брендом "Семечки от Сенечки", изготовленная в поселке Гатово под Минском, признана опасной для здоровья и запрещена к реализации в Беларуси. Показательно, что сами семена были экспортированы из-за пределов страны.*

Как сообщает ej.by со ссылкой на пресс-службу Министерства торговли Беларуси, по результатам лабораторных исследований установлено несоответствие вышеуказанной продукции Единым санитарным требованиям по содержанию кадмия — 0,22 мг/кг при норме 0,1 мг/кг.

На основании данных проверки главным государственным санитарным врачом Жлобинского района указанная партия семечек запрещена к реализации. Пока Минторг и Минздрав не дают никакой дополнительной информации по данному вопросу. В частности, непонятно, как обстоят дела с другими партиями семечек данной марки, откуда они экспортированы и насколько могут быть опасны.



***Для справки:*** *кадмий является одним из самых токсичных тяжелых металлов и отнесен ко 2-му классу опасности.*

ВЫБОРЫ-2012

# Нужны ли международные наблюдатели?

*Мнения у представителей оппозиции снова разделились.*

Техническая миссия по подготовке миссии по наблюдению за выборами ОБСЕ встречается с оппозицией и властями, чтобы решить: нужно ли международное наблюдение за выборами в Палату представителей? У оппозиции мнения разделились. Техническая миссия в составе старших советников по выборам ОБСЕ Армина Рабича, Лусине Бадалян и международного секретаря ПА ОБСЕ Анны Черновой 18 июля встретилась с представителями белорусской оппозиции. ОГП и БХД выступают против международного наблюдения, поскольку выборов как таковых нет, а партия "Справедливый мир" считает, что внутреннее наблюдение за кампанией должно быть дополнено международным.

— *Естественно, международное наблюдение нужно. Я знаю, что и ОГП, и БХД, которые встретились с миссией ранее, выступают против наблюдения. Действительно, зачем Лебедько наблюдение, если в бюллетенях для голосования не будет кандидатов ОГП? Зачем Рымашевскому международное наблюдение, если БХД проводит кампанию бойкота?* — говорит председатель "Справедливого мира" **Сергей Калякин**. С учетом того, что партия на этих выборах планирует идти до конца, левые выступают за наблюдение.

— *У нас позиция последовательная. Более того, "Справедливый мир" вместе с ОГП и БХД принимает участие в кампании "За справедливые выборы". Если мы ведем внутреннее наблюдение — нелогично отказываться от международного. Наоборот, внутреннее наблюдение должно быть дополнено международным,* — заявил Сергей Калякин.

Политик одновременно является сопредседателем кампании "За справедливые выборы", поэтому эту точку зрения в определенной степени можно считать и позицией кампании.

Лидер ОГП **Анатолий Лебедько** убежден в обратном.

— *Наш главный посыл — рекомендуем воздержаться от наблюдения за ходом избирательной кампании. Что наблюдать? Как работает министр Латушко с бубенцами на участке? Смотр сотрудников МВД во главе с Шуневичем? Меню Министерства торговли с дешевыми пирожками с капустой? Будут выборы — будет и международное наблюдение!!!* — написал Лебедько на своей странице в Facebook.

Сопредседатель оргкомитета по созданию БХД **Виталий Рымашевский** уверен: приезд наблюдательной миссии ОБСЕ в условиях, когда в белорусских тюрьмах сидят политзаключенные, когда белорусский режим не выполнил ни одного условия для проведения свободных выборов, будет означать легализацию этих выборов.

— *Приезд международных наблюдателей на "выборы" будет означать признание тех правил игры, которые режим навязал не только всем белорусам, но пытается навязать и Европе. Это будет означать легализацию не только этих "выборов", но и практики политических отношений,* — заявляет Рымашевский. — *БХД и лично я выступаем за проведение свободных демократических выборов и просим международные организации оказать нам помощь в проведении свободных выборов. Приезд международных наблюдателей ОБСЕ на эти "выборы" не будет содействовать проведению свободных выборов, наоборот, станет шагом к тому, чтобы такие выборы не состоялись.*

**Глеб ХМЕЛЬНИЦКИЙ, UDF.BY**

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

Глава Центризбиркома **Лидия Ермошина** после встречи с представителями ОБСЕ заявила следующее: *"Состоялся большой и хороший разговор, и, по-моему, мы расстались вполне удовлетворенными друг другом".* По ее словам, экспертов из ОБСЕ интересовало всё: *"начиная от состава ЦИК и окружных избирательных комиссий и заканчивая тем, как будут проводиться опросы общественного мнения, подсчет голосов",* какие изменения произошли в избирательном законодательстве Беларуси, проводится ли учеба для окружных и участковых избирательных комиссий, сколько заседаний провел белорусский Центризбирком, какие вопросы на них были рассмотрены.

*"Мы предоставим миссии весь объем необходимой информации, а далее уже дело ОБСЕ определять формат своего участия в парламентских выборах в Беларуси",* — заключила глава ЦИК.

КТО ОТВЕТИТ ЗА БАРДАК?

# На берегу Минского моря можно подхватить любую инфекцию

*Лето уже почти закончилось, а председатель Минского горисполкома **Николай Ладутько** только-только в приказном порядке распорядился навести порядок на столичных пляжах. Накануне журналист "Народной Воли" как раз прогулялась по берегу Минского моря. Картина, конечно, удручающая: горы мусора, запущенная территория, неухоженные заросли кустарников и ужасные туалеты, расположение которых выдает специфический запах. На первый взгляд — полная антисанитария и ощущение, что здесь запросто можно подхватить любую инфекцию...*

В выходные и даже не в очень солнечную погоду на Минском море по-прежнему яблоку негде упасть. Поэтому вопрос состояния здешних территорий и пляжей — чрезвычайно актуальный.

Еще не так давно въезд на автомобилях на так называемую пляжную территорию был запрещен — везде стояли знаки и заграждения, а нарушителей, умудрившихся проскочить через заслоны и пробраться на авто поближе к берегу, беспощадно штрафовали, невзирая даже на козырные номера. Сегодня на Минском море можно совершенно спокойно на машине заехать куда угодно, чем, кстати, многие и пользуются. И правда, зачем тащить мешок с углем и замаринованными шашлычками к месту отдыха со специальной стоянки, если удобнее поставить машину прямо на берегу (ну и что, что буквально в нескольких метрах кто-то загорает!), разложить костер где вздумается, а мусор закинуть под ближайший куст. Красота и комфорт! И, стоит заметить, что все отдыхают и гадят так, будто завтра умирать, и сюда, где остаются свалки из бутылок, презервативов, окурков и прочего, уже все равно больше ни ногой...

Впрочем, если говорить о стоянках, то въезды на те, которые считаются типа самыми обустроенными, — тема для отдельного разговора. Кто ездит на новых машинах и весьма ревностно относится к любым царапинам на своем транспорте, наверняка не будет щемиться между зарослями кустарников, ветки которых обязательно ласково "погладят" авто...

Если не ошибаюсь, в бытность министром внутренних дел **Владимира Наумова** на Минском море и в других местах отдыха страны еще дежурила специальная экологическая милиция, созданная его предшественниками. В 2010 году, когда министром стал **Анатолий Кулешов**, данную структуру почему-то упразднили.

*"Свое содержание экологическая милиция окупала*, — говорил о порядке в местах отдыха в апреле этого года в интервью газете "Вечерний Брест" начальник отдела Брестского областного комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды **Владимир Ревяко**. — *Был контроль, была четкая отработка мероприятий как по наведению порядка, так и по работе с организациями, допускающими данные нарушения. Уже ставятся вопросы, чтобы вернуть к жизни данную структуру. Но как это будет решаться — не знаю. Я бы однозначно поддержал такой шаг*".

В прошлом году столичные чиновники громко заявляли, что пляжей вокруг Минского моря станет больше. Мол, неиспользуемые земельные участки выставят на аукционы, создадут развлекательные заведения. Планировалось, что здесь появятся гостиницы, базы отдыха, туристические комплексы. Однако одно дело красивые слова и совершенно другое — конкретные дела. Уже много лет на берегу Минского моря стоит заброшенным некогда очень популярный ресторан "Заславль".



**Этот киоск стоит буквально в десяти метрах от берега Минского моря.**



**А когда-то ресторан "Заславль" считался элитным, и сюда было не попасть.**

Лет десять назад, когда в заведении еще подавали мороженое, шли разговоры о передаче здания в частные руки. Затем ресторан закрыли, и в здании ночевали бомжи, сюда же бегали справлять нужду отдыхающие (в бывшем ресторане не так воняло, как в местном туалете). Пару лет назад, когда кроме стен просто не осталось ничего, что можно было бы разворовать и вынести, "Заславль" огородили забором из сетки, а по периметру развесили видеокамеры. Прошел слух, что заведение выкупил какой-то бизнесмен и что вот-вот здесь возведут новый элитный отдыхательный комплекс. Однако развалины "Заславля" и сегодня стоят нетронутыми. Правда, огороженными.

Так о каких новых пляжах и комплексах ведут речь минские чиновники, если не могут как следует распорядиться тем, что уже есть?!

Когда Мингорисполкомом руководил покойный **Михаил Павлов**, на Минском море было больше порядка. При Павлове за каждым районом столицы была закреплена определенная территория, за которую районные начальники и их подчиненные отвечали головой. Они и мусор убирали, и оборудование пляжное закупали, и плакаты типа "Не надо мусорить!" развешивали. А нынешний градоначальник, похоже, наводит лоск только на той территории, по которой ездит Александр Лукашенко... Кстати, на водохранилище "Дрозды", недалеко от домашней резиденции президента и жилья некоторых других высокопоставленных чиновников, мусор на прибрежной территории собирают каждое утро...

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото автора.**



**Такая картина — почти по всему берегу.**

## ЦИТАТНИК

*"Качество обслуживания пляжных зон в черте города сегодня не соответствует статусу столицы Республики Беларусь ни по покосу травы, ни по уборке и вывозу мусора, ни по организации работы общественных туалетов", — цитирует belta.by **Николая Ладутько**.*

## Что люди говорят

В интернете довольно часто обсуждают состояние белорусских пляжей. И отзывы, надо сказать, не самые лучшие.

*"В той же Германии чистота и порядок в лесах поддерживаются не потому, что немцы такие культурные, а потому, что за мусор на природе там заоблачные штрафы*, — пишут на форумах. — *Ну что сделаешь, если люди — свиньи, если мусор выкидывают и в лесу, и на Минском море где попало? Если нет культуры, то ситуацию и экологию спасут только штрафы!*"

ОТЦЫ И ДЕТИ

# *Бизнесмен приобрел для дочери заброшенную деревню*

*Об этом сообщил директор департамента Министерства спорта и туризма Вадим Кармазин.*

Деревня в Кореличском районе включает 17 домов, которые сейчас восстанавливаются с сохранением аутентичных традиций. Впоследствии здесь планируется создать туристический комплекс. Для реконструкции деревни приглашен известный архитектор из Рогачева, а для управления туристическим комплексом создано отдельное юридическое лицо.

Председатель правления общественного объединения "Отдых в деревне" **Валерия Клицунова** рассказала, что бизнесмен приобрел заброшенную деревню для своей дочери — выпускницы факультета международных отношений БГУ, которая еще во время учебы хотела заняться туристической деятельностью.

## КСТАТИ

С 1 сентября местным исполкомам станет проще выставлять на продажу или передавать безвозмездно пустующие дома в сельской местности. Как пишет belta.by, вступающий в силу указ №100 предусматривает новый механизм передачи бесхозных строений инвесторам.

ЭКАНОМІКА

# *Кіроўцам у Мінску плацяць менш за 2 мільёны*

*У Мінску на 1 ліпеня зарэгістравана 21 тысяча вакантных месцаў, з іх прыкладна 80% прызначаны для рабочых. У Камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне падкрэсліваюць, што больш за ўсё вакансій у сферы будаўніцтва. Прадпрыемствам патрэбны плітачнікі, тынкоўшчыкі, муляры, мантажнікі сантэхнічных сістэм. Не хапае працоўных рук і ў сферах гандлю, грамадскага харчавання, транспарту і сувязі.*

У той жа час на пачатак чэрвеня ў Мінску зарэгістравана амаль 3 тыс. беспрацоўных. Гэта значыць, што на кожнага прыходзіцца амаль па 7 вакансій.

Чаму мінчан не прыцягваюць гэтыя вакансіі? Ды што мінчан, беларусы з рэгіёнаў з'язджаюць на заробкі ў Расію, хаця, здавалася б, зручней было б працаўладкавацца ў Мінску.

Мяркуючы па ўсім, справа ў зарплаце. З усіх вакансій, якія прапанаваны прадпрыемствамі і арганізацыямі Мінска, знайсці месца, дзе будуць плаціць хаця б сярэднюю па Мінску зарплату, — 4 мільёны — практычна немагчыма. У асноўным працадаўцы шукаюць спецыялістаў, якім гатовы плаціць ад паўтара да 3,5 мільёна. І нават будаўнікам, плітачнікам, кіроўцам, прадаўцам, дэфіцыт якіх назіраецца асабліва востра. Напрыклад, кіроўцы могуць разлічваць за заробак ад 1.200.000 да 3.800.000 рублёў, тынкоўшчыкі-абліцоўшчыкі ад паўтара да 4 мільёнаў, слесар ад 2,5 да 3 мільёнаў, бухгалтары ад 2 мільёнаў да 2,8 мільёна.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Дзённік вязня



Журналіста Андрэя Пачобута выпусцілі з гродзенскага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе. Да пачатку судовага працэсу ён застаецца на волі, але не можа пакідаць Гродна.

У сваім турэмным дзённіку, апублікаваным у выданні Gazeta Wyborcza, Андрэй падрабязна апісаў сваё затрыманне і тое, што з ім адбывалася ў гродзенскай турме. Прыводзім тэкст дзённіка цалкам.

## *Арышт*

Чацвер, 21 чэрвеня. Сяджу дома перад камп'ютарам і пішу артыкул пра Алеся Бяляцкага, аднаго з беларускіх палітвязняў. Артыкул павінен быў быць апублікаваны ў суботу. Раптам пазванілі ў дзверы. Адкрывае жонка, а ў кватэру ўваходзяць міліцыянеры. З-за іх спін з'яўляецца следчы Арсеній Нікольскі. Мы знаёмыя. Год таму менавіта ён праводзіў расследаванне маёй першай крымінальнай справы.

— Правядзём ператрус, — кажа ён.

— Па якім артыкуле абвінавачваюць?

— Па тым, што і ў мінулы раз (значыць, зноў артыкул 367 КК РБ "Паклёп на прэзідэнта"). Вы пастаянна пішаце, і мы павінны пісаць, — кажа Нікольскі. Але ён не выглядае шчаслівым, пазбягае поглядаў маёй жонкі. Ведаю, што вось-вось яны скажуць, што я арыштаваны.

— Чаму менавіта вы разглядаеце маю справу?

— Кіраўніцтва так вырашыла. Я хацеў адмовіцца, але не атрымалася.

Следчага цікавяць толькі камп'ютары. Кажа, што пасля ператрусу паедзем у пракуратуру, і гэта не зойме шмат часу. Апранаюся ў цёмныя рэчы, абуваюся ў абутак без шнуркоў, здымаю рэмень, таму што ведаю, што з пракуратуры паеду ў турму.

Калі збіраюся выходзіць, прачынаецца мой двухгадовы сын Яраслаў. Дачкі, дзякуй Богу, дома няма, і яна не бачыла, як міліцыянеры забіралі мяне, нібы злачынцу. Сын засмучаны і сцішаны. Бяру яго на рукі. Ён абдымае мяне за шыю і кажа: "Пайшлі на вуліцу". Адказваю: пойдзеш з мамай. Сын выглядае так, нібы ўсё разумее.

## *Камера №18*

З дому мяне вывелі пад эскортам міліцыі. На машыне давезлі да пракуратуры. Там я даведаўся, што супраць мяне ўзбуджана крымінальная справа з-за таго, што я нібыта паклёпнічаў на Аляксандра Лукашэнку ў дванаццаці артыкулах, размешчаных на сайтах "Хартыя-97" і "Беларускі партызан". Аднак з матэрыялаў міліцыі незразумела, у якім канкрэтна выпадку я паклёпнічаў на Лукашэнку.

Ведаю, што ў такіх выпадках адзіная абарона — гэта адмова ад дачы паказанняў.

Я кажу, што да слуханняў у судзе ніякіх паказанняў даваць не буду. Следчы выглядае расчараваным. Калі ўсе фармальнасці былі выкананы, я даведаўся, што застаюся пад арыштам. Пакуль на 10 дзён, а далей — як вырашыць кіраўніцтва.

Міліцыянеры вывелі мяне з будынка пракуратуры. Пад'ехала міліцэйская машына, з яе выйшаў афіцэр, каб надзець на мяне кайданкі. Я працягваю рукі, але раптам адзін з міліцыянераў, якія суправаджалі мяне ў пракуратуру, кажа, што не трэба. Афіцэр глядзіць са здзіўленнем і не апранае кайданкі. Саджуся ў машыну са свабоднымі рукамі.

Пад арыштам са мной абыходзяцца, як са старым прыяцелем. "Вы ж ведаеце працэдуру", — усміхаецца адзін з ахоўнікаў. У гэтую працэдуру ўваходзяць асабісты агляд, распрананне дагала, дагляданне ўсіх рэчаў. Праз некаторы час я апынуўся ў камеры №18.

## *Сюрпрыз*

Спачатку думаў, што буду знаходзіцца пад вартай па меншай меры тры дні, а потым мне прад'явяць абвінавачванне і перавядуць у турму. Гэта стандартная працэдура — падазроных трымаюць пад вартай, а абвінавачаных — у турме. Але на наступную ж раніцу ў камеру зазірнуў ахоўнік і кажа: "Пачобут, збіраем рэчы, цяпер ад'язджаем". Ён не сказаў, куды паедзем. Але падазраю, што ў турму. З камеры выходжу ў кайданках. Праз некаторы час заязджаем на тэрыторыю турмы №1 у Гродне. Трапляю ў кабінет да турэмнага афіцэра.

— Прозвішча?

— Пачобут.

— Артыкул?

— 367, частка 2.

— Кіраўніцтва турмы вырашыла пайсці вам насустрач. Замест каранціну вас адправяць адразу ў камеру.

— А чаму мне гэта павінна спадабацца?

— Калі хочаце — можаце адправіцца ў каранцін.

Каранцін — гэта першая турэмная камера, у якую трапляе зняволены. Гэта часовая камера. Звычайна ў ёй знаходзяцца некалькі дзясяткаў гадзін, пакуль вырашаюцца турэмныя фармальнасці.

У каранціне нялёгка. Камера разлічана на чатыры чалавекі, а сядзяць у ёй ад 10 да 15 чалавек. Там немагчыма паспаць. Калі патрапіш у каранцін у пятніцу (а сёння пятніца), то будзеш сядзець да панядзелка. Тры бяссонныя ночы.

— Я не настойваю на каранціне.

— Можа, ёсць якія-небудзь пажаданні да сукамернікаў?

Разумею, што ён пачынае сваю гульню, каб даведацца, чаго я хачу, а чаго не хачу. Не жадаю ўдзельнічаць у такіх гульнях і таму кажу, што ніякіх жаданняў не маю.

Афіцэр прымае гэта спакойна, але выглядае расчараваным.

— Добра, калі вы захочаце пагаварыць, то напішыце заяву, і мы сустрэнемся.

Праводзіць мяне на трэці паверх турмы ў камеру №65. У 2011 годзе я быў у камеры №63, якая знаходзіцца побач.

## *Адзін у камеры*

Камера №65 разлічана на чатыры чалавекі, але я знаходжуся ў ёй адзін, што не вельмі прыемна. Падчас праверкі пытаюся, як доўга буду знаходзіцца ў адзіноце, на што атрымліваю адказ, што гэтае пытанне вырашае турэмны афіцэр і звяртацца трэба да яго, ён можа ўсё змяніць.

Усміхаюся. Зноў гульня, але гуляць я не буду.

— Дзякуй. Нічога добрага з гэтай размовы не будзе. Пасяджу адзін.

З-за таго, што няма з кім размаўляць, думаю пра заведзеную на мяне справу. У галаве круціцца прысуд: 7 гадоў 9 месяцаў. Столькі мне пагражае. Арыфметыка вельмі простая — за паўторны паклёп на Лукашэнку мне пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Але да гэтага трэба дадаць 3 гады з адтэрміноўкай, якія маю з мінулага года, і якія, па правілах, суд дадасць да новага прысуду. Трэба таксама адняць 3 месяцы, якія адседзеў у мінулы раз. Калі мяне пасадзяць, то выйду толькі ў 2020 годзе!

Пачынаю лічыць, колькі гадоў будзе дачцэ і сыну...

Але такая турэмная арыфметыка не падбадзёрвае. Замест гэтага пачынаю адцісканні і прысяданні. Рукі і ногі баляць, але страх не знікае.

У галаву прыходзіць думка напісаць аповесць пра пасляваенныя бітвы Арміі Краёвай на Гродзеншчыне. Антыкамуністычнае падполле, НКУС, здрада, лагеры, смерць... Гістарычная аповесць не была б пагрозай для Лукашэнкі — не тое што турэмная публіцыстыка. Пачынаю складаць гісторыю, прыдумляць персанажаў, сюжэт другога плану. Час пачынае рухацца хутчэй і атрымліваецца прагнаць дакучлівыя думкі.

## *Сустрэча з адвакатам*

У панядзелак 25 чэрвеня раніцай сустракаюся са сваім адвакатам Аляксандрам Бірылавым. Даведваюся, што мой арышт выклікаў хвалю абурэння ў Польшчы і што з гэтай нагоды выказаўся прэм'ер Дональд Туск.

Адвакат таксама сказаў, што на працягу бліжэйшага часу мне будзе прад'яўлена абвінавачанне. І патлумачыў, што хоць мне і пагражае максімальна 7 гадоў 9 месяцаў, але звычайна суды не прыбаўляюць тэрміны.

"Галоўнае, каб канчатковы тэрмін быў даўжэй, чым кожны атрыманы паасобку", — тлумачыць Бірылаў.

Таксама даведваюся, што адвакаты пазбаўлены магчымасці зносін са СМІ. Нават з-за мінімальнай заявы могуць выключыць з калегіі адвакатаў. У палітычных справах наогул немагчыма нешта расказваць журналістам.

Гэта значыць, што цяпер мая справа пройдзе ў цішыні.

## *Тэлевізар і Саша*

У панядзелак жонка з дазволу начальства турмы прывезла мне тэлевізар. Але калі я спрабую яго ўключыць — знікае электрычнасць.

Выкліканы электрык не можа ліквідаваць непаладкі. Увечары аказваецца, што электрычнасць выключаецца таксама пры спробе закіпяціць ваду.

Пасля складання скаргі, раніцай наступнага дня, мяне пераводзяць у іншую пустую камеру на некалькі гадзін. На гэты раз пасля ўмяшання электрыка магу карыстацца як тэлевізарам, так і кіпяцільнікам.

У чацвер па заканчэнні тыдня адзіноты да мяне падсаджваюць сукамерніка. 23-гадовы Саша асуджаны за крадзеж. Час цяпер ідзе хутчэй.

## *Выхад з турмы*

10 дзён, на працягу якіх мне павінны прад'явіць абвінавачанне, заканчваюцца 1 ліпеня, у нядзелю. Але ўжо ў суботу неўзабаве пасля поўдня ў турме з'явіўся следчы Арсеній Нікольскі. Зачытвае абвінавачванне, якое слова ў слова паўтарае акт аб узбуджэнні крымінальнай справы.

Нікольскі інфармуе мяне, што было прынята рашэнне аб адпраўленні канфіскаваных камп'ютараў на экспертызу. А гэта значыць, што ён павінен з'явіцца ў турме яшчэ раз.

Пасля абеду атрымліваю назад ліст, які напярэдадні адправіў жонцы. Першая думка — аб тым, што ён не прайшоў турэмную цэнзуру. Чакаю праверку, каб запытацца пра гэта. Але каля 16 гадзін у камеру прыходзіць афіцэр і кажа, каб я хутка збіраў рэчы. Патлумачыў, што пераводзяць у іншую камеру. Збіраюся, развітваюся з сукамернікам. Мяне прыводзяць на першы паверх, але не ў камеру, а ў пакой дзяжурнага.

— Да вас прыменена прафілактычная мера: вы вызвалены пад падпіску аб нявыездзе, — усміхаючыся, кажа мне афіцэр. Папярэджвае, што я не маю права выязджаць з Гродна; што павінен з'яўляцца па выкліках следства...

Мне не верыцца, што праз імгненне выйду з турмы.

Афіцэр вяртае мне пашпарт, мабільны тэлефон і грошы, якія былі канфіскаваны падчас затрымання. Дае мне даведку аб тым, што я знаходзіўся ў турме №1 з 22 па 30 чэрвеня. І два ахоўнікі праводзяць мяне да выхаду.

Праз краты і калючы дрот я бачу вароты, праз якія выязджаюць турэмныя аўтамабілі. Вароты павольна адчыняюцца... і за імі мяне чакаюць жонка, дачка, бацькі, журналісты. Абдымаю жонку, дачку. Я шчаслівы!

Людзі, якія сабраліся ля турмы, запытваюць журналістаў: з-за чаго мяне арыштавалі, чаму выпусцілі, што ад мяне хочуць беларускія ўлады, ці жадаюць яны, каб я перастаў пісаць?

Думаю, што ўладам сапраўды гэтага хочацца.

Ці хочуць яны запалохаць гэтым затрыманнем іншых журналістаў?

Без сумневу.

Аднак на дадзены момант адказаў на ўсе пытанні ў мяне няма.

**Андрэй ПАЧОБУТ,**
*Gazeta Wyborcza.*

## ТЫМ ЧАСАМ

Міжнародная федэрацыя правоў чалавека заклікала ўлады Беларусі зняць абвінавачанне з гродзенскага журналіста, актывіста незарэгістраванага Саюза палякаў Андрэя Пачобута.

Акрамя таго, арганізацыя настойвае на неадкладным вызваленні ўсіх палітычных зняволеных і на павазе да свабоды выказванняў і сумлення, якую гарантуе Канстытуцыя Беларусі.

КРИМИНАЛ

# *В Барановичах похитили «лягушку»*

*Скульптура стоимостью около 6 миллионов рублей исчезла в ночь на 17 июля.*



Как сообщает сайт intex-press.by, исчезновение металлической "лягушки", установленной у торгового объекта по улице Ленина, утром 17 июля обнаружили продавцы и сообщили об этом в милицию.

По информации Барановичского ГОВД, ущерб похищенного владелец скульптуры оценил в 6 миллионов рублей. По факту кражи возбуждено уголовное дело. Ведется поиск преступников.

Кстати, это уже не первый случай похищения в Барановичах небольших скульптур и элементов памятных знаков.

Так, в феврале 2009 года со скульптуры возле магазина "Книги" по улице Советской были похищены совы. Спустя неделю птиц практически целыми и невредимыми нашли в поле среди выброшенного строительного мусора около деревни Узноги.

А в прошлом году неизвестный водитель, прицепив к автомобилю металлический якорь, который является декоративным элементом памятного знака, установленного в честь Георгия Холостякова, вырвал его из постамента и протащил до Северного микрорайона. Якорь, который водитель "потерял", вернулся на свое место, а человека, осквернившего памятный знак, так и не нашли.

ВАШ ПУТЕВОДИТЕЛЬ

# Живая вода Словакии

*В разгаре сезон летнего отдыха.*
*Вы думаете, куда поехать? Подсказываю: в Словакию. Чудесное место на земле!*

**Мариан Серватка**, Чрезвычайный и Полномочный Посол Словацкой Республики в Беларуси, поведал нам такую легенду. В начале мироздания Бог решил раздать землю людям. Приходили к нему представители разных народов, а он определял им земли. Когда Бог уже все разделил и захотел отдохнуть после напряженного труда, явился к нему еще один человек, который немного опоздал.

— Что бы ты хотел? — спросил его Бог.

— Я — словак. И тоже хотел бы попросить у тебя какую-нибудь землю.

— Но я уже все разделил, — ответил ему Бог, но, немного подумав, добавил: — К твоему счастью, оставил я для себя одну маленькую страну, чтобы иметь возможность ездить туда в отпуск. Забирай ее в подарок. Я уверен, она тебе понравится.

Так словаки получили маленькую, но очень красивую, просто сказочную страну между Дунаем и высокими Татрами.

Как тут не поверить в эту живописную легенду! Вот и в книге **Ирены Горожанкиной *“Живая вода Словакии”*** все сказанное выше подтверждается.

Возьмем знаменитые на весь мир **Бардеевские купели**. История курорта началась еще в средневековье, когда члены ордена цистерианцев стали использовать минеральные источники для лечения различных болезней. С XVIII столетия бардеевская вода экспортируется во многие страны Европы. Кто здесь, в Бардеевских купелях, не лечился! Венгерский император Йозеф II, супруга Наполеона Мария-Луиза, русский царь Александр I, жена польского короля Яна III Собеского. А в 1895 году курорт посетила императрица Елизавета, известная как Сиси — ее статую можно сегодня увидеть в курортном парке.



**Мариану Серватке есть чем гордиться...**

А слышали о **Бойницких купелях**? Это тоже старейший словацкий курорт. Впервые он упоминается в грамоте короля Коломана в 1113 году. Бойницкие купели расположены на базе девяти природных термальных источников с температурой воды от 28 до 52 градусов по Цельсию. Кстати, расположенный рядом с курортом город Бойнице является старейшим в стране и славится одним из самых красивых замков в Словакии. Не случайно этот город облюбовали некоторые богатые белорусы, которые, приобретя недвижимость, фактически сменили место постоянного проживания.

Вас мучают болезни мочевыводящих путей, почек, поджелудочной железы, печени? У вас нелады с пищеварительным трактом? Дает сбои система кровообращения? Есть проблемы с опорно-двигательным аппаратом? Не раздумывайте — отправляйтесь **на курорт в Брусно**. И берите с собой маленьких детей. Здесь открыта школа обучения плаванию детей от младенческого возраста до ясельного.

**Курорт Вышне Ружбахи** — для тех, у кого заболевания верхних дыхательных путей, сердечно-сосудистые, гинекологические, нервной системы. Расположен он на высоте 600 метров над уровнем моря возле известных минеральных источников на юго-восточных склонах горного хребта Спишская Магура, недалеко от польской границы.

Когда я листал книгу “Живая вода Словакии” Ирены Горожанкиной, обратил внимание на раздел, посвященный такому всемирно известному курорту, как **Дудинце.** До сих пор распространяется легенда о том, как еще во времена римлян в этом краю на помощь тяжело заболевшему сыну римского полководца пришла добрая волшебница Дудинка. Она сделала местную воду исцеляющей, и мальчик выздоровел. Заметим, свойства минеральной воды в Дудинце уникальны. Подобный состав микроэлементов встречается крайне редко. Таких источников в мире только три: в Дудинце, во французском Виши и в Японии.



Жаль, газетная площадь не позволяет подробно рассказать о всех уникальных местах Словакии. Ирена Горожанкина красочно описывает и **курорт Ковачова**, и **целебные источники Лучки, Нимнице, Пиештяны, Раецке Теплице, Склене Теплице, Слияч, Смрдаки.** Кстати, на курорте, который в перечислении называется последним, эффективную помощь получают те, кто страдает псориазом, атопическим дерматитом, хронической экземой, всеми видами невродерматозов, склеродермии, псориатическим артритом и так далее.

В регионе Липтов есть курорт под названием **Бешенова**. Его геотермальная вода является железистой и содержит кальций, магний, натрий, большое количество сульфатов. Она оказывает благоприятное действие на опорно-двигательную и дыхательную системы человека, обладает прекрасным косметологическим воздействием. На территории комплекса — 16 бассейнов.

Нет, все, что является жемчужиной Словакии, не перечислишь. ***В Словакии нужно побывать!*** А книга Ирены Горожанкиной “Живая вода Словакии” может стать вашим путеводителем.

**Василий ДУБИЦКИЙ.**







ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Колькі часу адведзена на амністыю?*

***Не так даўно са старонак вашай газеты паведамлялася аб тым, што ўступіў у сілу закон аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынства. Скажыце, а ці прымяняецца амністыя да карупцыянераў? І праз які час пасля падпісання гэтага закона той, хто пад яго трапляе, можа выйсці на волю?***

**Марына ПЯТРОЎСКАЯ, Мінск.**

У гэтым годзе пад амністыю трапляюць тыя, хто здзейсніў гаспадарча-эканамічныя злачынствы. І калі асуджаны адбыў чвэрць тэрміну пакарання і кампенсаваў прычыненую шкоду, то ў яго ёсць шанцы выйсці на волю. Карупцыянерам, якія таксама пакрылі шкоду, скароцяць тэрмін адбывання пакарання на год.

Па словах чыноўнікаў з МУС, традыцыйна на выкананне закона аб амністыі адводзіцца паўгода.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

СКАНДАЛ

# У беларускай калоніі галадае іншаземец

*Пра гэта “Народнай Волі” паведаміла Яўгенія Будкевіч, жонка вязня — латыша Алега Цупы.*

— Ужо больш за два тыдні мой муж Алег Цупа трымае галадоўку, — *напісала Яўгенія ў сваім лісце ў рэдакцыю*. — Яго рэгулярна аглядае ўрач калоніі: наколькі мне вядома, за гэты час муж ужо страціў больш за 10 кілаграмаў, у яго паніжаны ціск. Урач раіць яму піць больш вады. Супрацоўнікі калоніі разумеюць усе прычыны гэтага акта, і ведаюць: у мужа няма прэтэнзій да адміністрацыі калоніі і ўмоў утрымання. Па гэтым пытанні, дарэчы, і я, і мой муж давалі тлумачэнні. Асноўным патрабаваннем Алега з'яўляецца захаванне правоў, прадугледжаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Ён настойвае, каб да яго былі ўжыты амністыі апошніх гадоў. Алег таксама звярнуў увагу, што абавязковай умовай спынення галадоўкі з'яўляецца сустрэча з дзяржаўнымі службоўцамі, прадстаўнікамі Пасольства Латвійскай Рэспублікі, Прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі, сродкамі масавай інфармацыі.

26 ліпеня будзе 2,5 года, як мой муж адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі-22. Ён увесь час змагаецца за сваю свабоду. Сваімі дзеяннямі ён хоча прыцягнуць перш за ўсё ўвагу пракурораў Рэспублікі Беларусь: амаль восем гадоў з боку міліцыі і праваахоўных органаў да яго не было ніякіх прэтэнзій (з 2002-га па 2010 год), а потым раптам здарыўся гэты тэрмін зняволення! Пра гэта я пісьмова апавясціла многія дзяржаўныя і іншыя органы. Консул Пасольства Латвійскай Рэспублікі пастаянна цікавіцца і сочыць за сітуацыяй, якая склалася, і станам здароўя майго мужа. Наколькі мне вядома ад мужа і ад супрацоўніка Упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў МУС па



Брэсцкай вобласці, ужо праводзіцца праверка па факце галадоўкі.

***

“Народная Воля” прыкладна месяц таму распавядала гісторыю Алега Цупы. “*У 2001 годзе мой муж, будучы яшчэ маладым і халастым, са сваім сябрам паехаў у Гродна купляць аўтамабіль*, — распавядала нам Яўгенія. — *Там яны пазнаёміліся з дзяўчынай, разам правялі час. Затым знаёмая папрасіла Алега дапамагчы ёй з пераездам: маўляў, пасварылася з сужыцелем, сабрала рэчы. Муж пагадзіўся. Праз 9 гадоў пасля гэтага выпадку Алегу прад'явілі абвінавачванні ў крадзяжы і арыштавалі. З тых часоў муж спрабуе даказаць сваю недатычнасць да гэтай справы і піша скаргі ва ўсе інстанцыі*”.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ПОСЛЕ ПРАЗДНИКА

## *Наши матери обнимали и целовали этих солдат!*

*Я взялся за написание этих строк потому, что своими глазами пришлось видеть смерть, кровь, несчастья и страшные разрушения, которые принесла на нашу землю развязанная фашистами война. И все это в моей памяти по сей день, а ведь прошло без малого 70 лет со Дня освобождения...*

Мне нет-нет да и приснится тот погреб в огороде, в котором мы прятались от бомбежек и артиллерийских обстрелов... Так было и в день освобождения, когда на рассвете началась оглушительная канонада.

Моя мать, тетка, я и три мои сестренки спрятались в погребе. Сидели в полной темноте. Нам казалось, что земля трясется и выворачивается наизнанку. Было очень страшно. Мы крестились и плакали...

Казалось, что этому ужасу не будет конца. Не помню, как долго мы просидели в этом погребе, но вдруг где-то совсем рядом началась стрельба, а потом неожиданно кто-то снаружи резко открыл дверцу погреба. Свет больно ударил в глаза, и через минуту мы увидели трех солдат в касках с красными звездами и автоматами в руках. Один из них сказал, чтобы мы вылезали. Солдаты и сообщили, что наша армия освободила столицу, что фашисты отступают... Нам стало легко и радостно. Наши матери обнимали и целовали этих солдат, а они на прощание дали нам буханку хлеба, большой кусок сахара и разрешили попить воды из их фляг...

Никогда не забуду слова матери, которая сквозь рыдания сказала: *“Наконец-то кончился этот кошмар, и дай Бог мы найдем отца...”* И через месяц он нашел нас.

Мы направились к бараку, в котором раньше жили, но он оказался разрушенным. Вокруг мы видели изуродованную фашистскую технику и трупы немецких солдат и офицеров, навстречу нам наши солдаты уже вели колонну пленных... Таким запомнился мне День освобождения, таким он останется в моей памяти на всю оставшуюся жизнь.

Живым я вышел из оккупации благодаря матери. К огромному сожалению, ее уже нет в живых... Сколько она и тысячи других матерей натерпелись горя за годы оккупации, с детьми на руках!.. Низкий им поклон!

Знаете, уже после войны, когда я учился в школе, моя одноклассница Оля (фамилию запамятовал) написала строки, которые, поверьте, помню: *“Я рисую дома и сады на Луне, но не хочу рисовать лишь воронки от бомб!..”* Детские слова самые искренние и правдивые...Да, мы дети войны, больше не хотим войны!.. Пусть всегда будет солнце!

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда, спорта, заслуженный тренер БССР.**

ПРОШУ СЛОВА!

# Спасите село!

У нас если рубят лес — так летят щепки. Если отрезают хвост — то по самые уши. Если борются за сохранение памятников истории и культуры — то до полного их исчезновения.

Сейчас в самом разгаре разрушение селища возле поселка Сосновый Лапичского сельсовета Осиповичского района. Это побочный результат реконструкции шоссе Минск—Гомель. Селище археологами не изучалось и в специальной литературе никак не представлено. Имело площадь около одного гектара. Толщина культурного слоя от 30 до 50 сантиметров. Нижний пласт относится, по-видимому, к бронзовому веку (множество кремниевых отщепов). Верхний — к эпохе феодализма (Киевская Русь). Село, скорее всего, погибло в пожаре в середине XIII столетия в первый раз и окончательно стирается с лица земли на наших глазах.

Разрушение селища возле поселка Сосновый — еще один пример того, что все слова о сохранении памятников истории и культуры остаются лишь громкими словами.

**Юрий КЛЕВАНЕЦ.**

*Осиповичи.*



**Общий вид разрушенного селища.**



**.План расположения памятников археологии в окрестностях Лапичей. Составлен автором и опубликован в “Краязнаўчай газеце” №20/2008 год. Жирная линия на плане — строящийся мост.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Значыць, вельмі кепска вучылі бабулю Маню...

Прачытаў у “Народнай Волі” інфармацыю аб тым, што пенсіянерка з Гомеля Марыя Сазоненкава аддала на будоўлю музея 17 мільёнаў рублёў і 13 мільёнаў рублёў ахвяравала на будаўніцтва атамнай станцыі пад Астраўцом. Матывіравала гэта тым, што мы ўсе даўжнікі перад дзяржавай, бо так у школе вучылі. Ну што ж, за такія выказванні і практычныя дзеянні можна дараваць 90-гадовай бабулі, якая па сваім неразуменні падалася хлусні ідэалогіі ад улады. Відавочна і тое, што калісьці школьніцу Марыю Сазоненкаву вельмі дрэнна настаўнікі вучылі, калі ёй убівалі ў галаву, што яна ўсё жыццё будзе павінна дзяржаве. А тое, што дзяржава на мільярды долараў абкрадае свой народ, ніхто 90-гадовай бабулі Мані чамусьці не растлумачыў. Гэта не проста страшна, а трагічна, калі чалавек сваё доўгае жыццё пражывае ў асяродку хлусні. Сапраўды трагічна, калі хлусня стала галоўнай дзяржаўнай ідэалогіяй.

Але вернемся да музеяў, прысвечаных Другой сусветнай вайне, аб якіх так клапоціцца і наша гераіня. Мусіць, яна не ведае, што такіх музеяў ад Брэста да Оршы і ад Расон да Хойнікаў ужо больш чым дастаткова. А вось вайне 1410 года, якая ўвайшла ў гісторыю як Грундвальская бітва, нават нідзе няма мемарыяльнага знаку. Што тычыцца вайны 1514 года пад гістарычнай назвай *Аршанская бітва,* дык аб ёй улады нават не хочуць і чуць. А гэтыя войны па гістарычнай значнасці нічым не ўступаюць для беларускага народа, чым Другая сусветная вайна 1939—1945 гадоў.

Адной з самых трагічных войнаў для беларускага народа была вайна 1654—1667 гадоў. У той вайне захопнікамі з Усходу было забіта 52% нашага насельніцтва, а сучасная тэрыторыя Беларусі нагадвала суцэльнае папялішча. Але аб гэтай трагедыі ўлады таксама нават ведаць не хочуць.

У наступным, 2013-м, годзе спаўняецца 150 гадоў вызваленчаму паўстанню 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, які з'яўляецца для беларускага народа нацыянальным героем. Дык дзе ж тыя музеі і помнікі тым трагічным падзеям і славутым змагарам за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны? Вось аб гэтым патрэбна клапаціцца, каб захаваць сваю індэнтычнасць, быць народам, а не пакорлівым прыстасаванцам.

Што тычыцца вайны 1939—1945 гадоў, дык сёння нават расійскія гісторыкі спрачаюцца паміж сабой аб тым, як правільна трактаваць: “Вялікая Айчынная вайна” ці “Другая сусветная вайна”? Што тычыцца беларускага народа, дык для нас бясспрэчна — гэта “Другая сусветная вайна”. Другой назвы ўвогуле быць не можа ўжо па той толькі прычыне, што Беларусь сама з'яўлялася тады расійскай калоніяй. Па-другое, у выніку той вайны Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі, дзе спрадвеку жылі беларусы (ліцвіны). Чаму Расія так распараджалася, гандлявала нашай этнічнай тэрыторыяй? Аднак працы простага, яшчэ раз паўтаруся — бо Беларусь была фактычна расійскай калоніяй, і гэтым усё сказана.

Але чаму сённяшняя ўлада так чапляецца за гэты музей, што ў нас няма больш жыццёва важных праблем? Вядома, што такім чынам улада імкнецца адцягнуць увагу народа (спекулючы на яго пачуццях) з той мэтай, каб ён не думаў аб вышэйпералічаных гістарычных падзеях, якія сапраўды варты памяці і ўвекавечання.

Што тычыцца фінансавай падтрымкі на будаўніцтва Астравецкай атамнай станцыі, дык гэта можна параўнаць, як лячэнне пнеўманіі ўкусам гадзюкі. Вось так вы, паважаная бабуля Маня, паспрыялі будучым пакаленням, бо АЭС можа стаць братэрскай магілай для ўсёй Беларусі. Дык, можа, хто-небудзь там па суседстве растлумачыць бабульцы Мані, што калі б яна злішак грошай ахвяравала на развіццё газеты “Народная Воля”, дык гэта сапраўды была б рэальная дапамога духоўна сляпым і замбіраваным хлуснёй людзям. Таму што ад колькасці тыражу “Народнай Волі” напрамую залежыць будучыня наступных пакаленняў. “Народная Воля” — гэта крыніца праўды і розуму, гэта компас, які паказвае шлях у светлую будучыню.

**З павагай —**

**Мікола КАНАХОВІЧ.**
**г.Пружаны.**

